Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!



НАДЗВЫЧАЙНЫ XII З'ЕЗД СОВЕТАЎ БССР
ЧРЕЗВЫЧАЙНЫЙ XII СЪЕЗД СОВЕТОВ БССР
אויסערארדנטלעכער XII-טער אלווייסרוסישער סאָוועטנצוזאמענפאר
NADZWYCZAJNY XII ZJAZD RAD BSRR

## БЮЛЕТЭНЬ № 1



# ПАСЯДЖЭННЕ ПЕРШАЕ

Вячэрняе, 20 лістапада 1936 г.

Паяўленне ў Прэзідыуме т.т. **Гікало, Чэрвякова, Галадзеда, Валковіча** і **Леплеўскага** сустракаецца гучнымі апладысментамі.

Голас з месца: «Няхай жыве вялікі, мудры таварыш **Сталін!** Ура! (Апладысменты.)

**Чэрвякоў.** Таварышы! Надзвычайны XII Усебеларускі З'езд Советаў склікан напярэдадні VIII Усесаюзнага З'езда Советаў для падвядзення вынікаў абмеркавання праекта Сталінскай Канстытуцыі ў БССР і для выбараў дэлегатаў на VIII Усесаюзны З'езд Советаў, які збіраецца для канчатковага зацверджання Сталінскай Канстытуцыі. Гэта надае работам Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў надзвычайна важнае палітычнае значэнне і ўскладае на кожнага з нас, дэлегатаў з'езда, велізарныя гістарычныя абавязкі. Кожны з нас з гонарам адчувае высокае давер'е, якое аказана нам працоўнымі масамі Совецкай Беларусі, выбраўшымі нас у якасці дэлегатаў Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў для таго, каб выказаць думкі, волю і жаданне працоўных Совецкай Беларусі па пытанню аб праекце Сталінскай Канстытуцыі. За правільнае вырашэнне даручаных нам задач мы цалкам адказваем перад гісторыяй барацьбы за соцыялізм і перад працоўнымі Совецкай Беларусі.

У гэты надзвычайны гістарычны дзень, калі кожны з нас з хваляваннем прыступае да работы з'езда, адчуваючы сваю вялікую адказнасць перад працоўнымі, наша першая думка, як і думка ўсяго працоўнага беларускага народу, накіравана да натхніцеля нашых перамог—кіраўніка, настаўніка і друга беларускага народу, тварца новай Канстытуцыі, вялікага таварыша **Сталіна** (Бурныя апладысменты. Воклічы: «Ура»! «Няхай жыве тварэц Канстытуцыі, наш Вялікі **Сталін!**» Магутнае «Ура». Аркестр выконвае «Інтэрнацыянал»).

Нашым абавязкам з'яўляецца следваць заўсёды прыкладу таварыша **Сталіна** ў нашай барацьбе і ў нашым жыцці, быць вернымі змагарамі за справу соцыялізма, за справу Леніна—Сталіна.

У гэтыя гістарычныя дні ўся наша вялікая соцыялістычная радзіма, усе народы Совецкага Саюза з радасцю і гонарам ві-

таюць сталінскую Канстытуцыю як вынік велізарных перамог у барацьбе за соцыялізм і аснову далейшага неасяжнага соцыялістычнага росквіту і развіцця.

Асаблівую радасць і гонар у гэтыя дні адчуваюць працоўныя Совецкай Беларусі за сваю вялікую соцыялістычную радзіму— Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, за сваю перамогу ў барацьбе за соцыялізм, за новае, радаснае жыццё, якое створана на аснове перамог соцыялізма і стала магчымым толькі ў выніку перамог Кастрычніцкай рэволюцыі і ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Совецкая Беларусь прышла да зацверджання праекта Сталінскай Канстытуцыі з вялікімі перамогамі. Беларусь з заняпалай, беднай, ахвяраванай на выміранне працоўных мас калоніі царызма ператварылася ў Беларусь соцыялістычнай прамысловасці, соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, соцыялістычнай культуры мільёнаў актыўных і свядомых будаўнікоў соцыялізма, стаўшы раўнапраўнай, неадрыўнай і перадавой часткай вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Сталінская Канстытуцыя з'яўляецца трыумфам ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, дзякуючы якой працоўныя Совецкай Беларусі падняліся з цемры мінулага і заваявалі сабе светлае і радаснае жыццё.

У сталінскай Канстытуцыі працоўныя Совецкай Беларусі бачаць замацаванне дасягнутых перамог і залог далейшага развіцця.

Шчасце і радасць працоўных Совецкай Беларусі і Совецкага Саюза, значэнне сталінскай Канстытуцыі адчуваецца з асаблівай сілай пры параўнанні становішча Совецкага Саюза з становішчам капіталістычнага свету, пры параўнанні разгорнутай пролетарскай дэмакратыі ў Краіне Советаў з наглым разгулам раз'юшанага фашызма ў краінах капітала.

Мы добра ведаем, што Сталінская Канстытуцыя з'яўляецца для працоўных капіталістычных краін праграмай, сцягам іх барацьбы за знішчэнне ўлады капіталістаў.

Усім сваім сэрцам мы з працоўнымі ўсяго свету, якія вядуць барацьбу за сваё вызваленне!

Мы шлем сваё палкае, баявое прывітанне рэволюцыйнаму іспанскаму народу, які вядзе гераічную барацьбу супроць азвярэлых фашыстаў, і змагаецца за мір, за справу, якая з'яўляецца справай усяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва, і жадаем іспанскаму народу рашучай перамогі над фашысцкімі бандамі! (Апладысменты).

Грозная сучасная міжнародная абстаноўка напамінае працоўным Совецкай Беларусі аб нашых асобных абавязках пагранічнай Рэспублікі, баявога фарпоста Совецкага Саюза на рубяжы з капіталістычным светам.

Мы шлем наша баявое прывітанне чырвонаармейцам, камандзірам, палітработнікам часцей Беларускай вайсковай акругі, усёй Чырвонай арміі і слаўнаму маршалу Совецкага Саюза, другу

беларускага народу таварышу **Варашылаву** (бурныя апладысменты. Аркестр выконвае «Інтэрнацыянал»).

Мы асабліва вітаем байцоў, камандзіраў, палітработнікаў, пагранічнікаў, тых слаўных пагранічнікаў, якія з дня ў дзень, з гадзіны ў гадзіну, і днём і ноччу доблесна выконваюць свой гераічны абавязак па ахове граніц Совецкага Саюза. (Доўгія апладысменты).

Воля працоўных Совецкай Беларусі папярэдне ўжо выказана. На сходах, пленумах советаў, раённых з'ездах советаў, пры выбары дэлегатаў на Ўсебеларускі З'езд Советаў беларускі народ ўсюды аднагалосна прагаласаваў за сталінскую Канстытуцыю (бурныя апладысменты), і задача Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў заключаецца ў тым, каб гэтую волю цалкам выканаць.

Жаданне і воля працоўных Совецкай Беларусі накіравана на тое, каб пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, па прыкладу і пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша **Сталіна** (бурныя апладысменты) сумленна і доблесна выканаць свае абавязкі перадавога атрада працоўных на мяжы з капіталістычным светам у барацьбе за соцыялізм, у барацьбе супроць усіх ворагаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Мы пачынаем сваю работу з імем вялікага правадыра прыгнечаных народаў усяго свету—таварыша **Сталіна.**

Пад кіраўніцтвам ВКП(б) на чале з таварышом Сталіным і КП(б)Б на чале з выпрабаваным сталінцам таварышом **Гікало** Совецкая Беларусь разам з працоўнымі ўсяго Совецкага Саюза дамаглася вялізарных перамог. Мы дамагліся гэтых перамог пад кіраўніцтвам вялікага тварца новай Канстытуцыі Саюза ССР таварыша **Сталіна.** (Бурныя, доўганезмаўкаючыя апладысменты. Усе ўстаюць).

Пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, на чале з таварышом **Сталіным** Совецкая Беларусь разам з працоўнымі ўсяго Совецкага Саюза і на аснове новай сталінскай Канстытуцыі яшчэ больш шпаркімі тэмпамі пойдзе па шляху далейшага соцыялістычнага будаўніцтва і развіцця.

Няхай жыве Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

Няхай жыве вялікая партыя **Леніна—Сталіна!**

Няхай жыве вялікі правадыр народаў усяго свету, наш кіраўнік, наш настаўнік і друг, наш вялікі таварыш **Сталін!** (Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Воклічы: «Ура», «Няхай жыве наш любімы Сталін!». Аркестр выконвае «Інтэрнацыянал». Авацыі ўзрастаюць з новай сілай. З усіх канцоў зала нясуцца воклічы гарачых прывітанняў у гонар партыі, у гонар вялікага Сталіна).

Надзвычайны XII Усебеларускі З'езд Советаў рабоча-сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў агалашаю адкрытым. (Доўгія апладысменты. Аркестр выконвае «Інтэрнацыянал»).

Прыступім, таварышы, да канструіравання кіруючых органаў З'езда.

Слова для прапаноў мае таварыш **Леўкоў** (апладысменты).

**Леўкоў.** Таварышы, ад імя партыйнай групы з'езда, а таксама і групы беспартыйных таварышоў, прапаную абраць Прэзідыум з'езда ў колькасці 61 таварышоў.

**Чэрвякоў.** Ці ёсць іншыя прапановы адносна колькаснага складу Прэзідыума?

(Галасы—«Няма»).

Значыць, ёсць прапанова абраць Прэзідыум у складзе 61 чалавек. Іншых прапаноў няма?

(Галасы—«Няма»).

Дазвольце лічыць прынятым.

**Леўкоў.**—Персанальна прапануюцца наступныя таварышы:

**Гікало** (Бурныя апладысменты. Усе ўстаюць. Аркестр выконвае «Інтэрнацыянал». Бурныя доўга незмаўкаючыя апладысменты. Воклічы—«Ура»!.. Голас з месца: «Няхай жыве ордэнаносец тав. **Гікало**—«Ура!». Працяглыя, доўга незмаўкаючыя апладысменты).

**Галадзед** (працяглыя, доўга незмаўкаючыя апладысменты).

**Чэрвякоў** (працяглыя, доўга незмаўкаючыя апладысменты).

**Валковіч** (працяглыя, доўга незмаўкаючыя апладысменты).

**Убарэвіч** (працяглыя апладысменты).

**Рыскін** (працяглыя апладысменты).

**Леплеўскі** (працяглыя апладысменты).

**Бенек** (апладысменты).

**Булін** (апладысменты).

**Шусцін** (апладысменты).

**Ціхон** (апладысменты).

**Любовіч** (апладысменты).

**Сурта** (апладысменты).

**Саакян** (апладысменты).

**Дзякаў** (апладысменты).

**Аўгустайціс** (апладысменты).

**Апанасенка**—камкор, нам. кам. вайскамі БВА (апладысменты).

**Емельянаў**—нач. пагранаховы НКУС (апладысменты).

**Горачоў**—камдзіў (апладысменты).

**Сердзіч**—камдзіў (апладысменты).

**Подлас**—камдзіў (апладысменты).

**Шахназараў**—камдзіў (апладысменты).

**Сазонтаў**—камдзіў (апладысменты).

**Казанскі**—камдзіў (апладысменты).

**Юнг**—дывізіённы камісар (апладысменты).

**Стакун** (Апладысменты).

**Жураўлёў** (апладысменты).

**Жуковіч** (апладысменты).

**Малашонак** (апладысменты).

**Сухаручкін** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Каменштэйн** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Ляхаў** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Дубіна** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Жолудаў** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Пушчын** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Свірыдаў** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Леўкоў** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Хадасевіч** (а п л а д ы с м е н т ы)
**Соскін** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Купала** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Колас** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Александровіч** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Владзімірскі**—Нач. Беларускай чыгункі (а п л а д ы с м е н т ы).
**Русанаў**—Нач. Заходняй чыгункі ( а п л а д ы с м е н т ы).
**Балцін** (а п л а д ы с м е н т ы).
**Козінцаў**—старшыня Шклоўскага РВК (а п л а д ы с м е н т ы).
**Харлап**—старшыня Лельчыцкага РВК (а п л а д ы с м е н т ы).
**Конікаў**—старшыня Талачынскага РВК (а п л а д ы с м е н т ы).
**Трызна**—старшыня Чашніцкага РВК (а п л а д ы с м е н т ы).
**Сенькевіч**—старшы лейтэнант (а п л а д ы с м е н т ы).
**Івашэнка**—танкіст (а п л а д ы с м е н т ы).
**Патапенка** Аляксей Тарасавіч—старшыня калгаса імя Сталіна Глускага раёна—ордэнаносец (а п л а д ы с м е н т ы).
**Юхневіч** Мацвей Сцяпанавіч—калгаснік Тураўскага раёна, ордэнаносец (а п л а д ы с м е н т ы).
**Бейне** Сяргей Іосіфавіч—старшыня калгаса «Чырвоны партызан» Менскага раёна, ордэнаносец (а п л а д ы с м е н т ы).
**Рачок** Соня (а п л а д ы с м е н т ы).
**Каравосава** Домна Сцяпанаўна—льноцерабільшчыца Горацкай МТС (а п л а д ы с м е н т ы).
**Скабло** Гірш—стаханавец (а п л а д ы с м е н т ы).
**Цыганкова**—стаханаўка фабрыкі імя Кагановіча (а п л а д ы с м е н т ы).
**Вілетнікава** Елена Паўлаўна—чыгуначніца, ордэнаноска (а п л а д ы с м е н т ы).
**Жыгалаў** — чырвонаармеец пагранатрада (а п л а д ы с м е н т ы).
**Досін**—Менск, чыгунка, ордэнаносец (а п л а д ы с м е н т ы).
**Чэрвякоў.** Якія ёсць заўвагі адносна прачытаных кандыдатур у склад Прэзідыума З'езда? (П р а ц я г л ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Дазвольце галасаваць. Хто за тое, каб азначаных таварышоў абраць у Прэзідыум З'езда прашу падняць мандаты з правам рашаючага голаса. Прашу апусціць. Хто супроць або ўстрымаўся? Няма. Такім чынам, Прэзідыум З'езда абран аднагалосна (П р а ц я г л ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышоў, абраных у Прэзідыум З'езда прашу заняць месца ў Прэзідыуме (А п л а д ы с м е н т ы).

Працягваем нашу работу. Слова мае тав. Леўкоў.

**Леўкоў.** Ёсць прапанова абраць сакратарыят З'езда Советаў у складзе 17 асоб.

**Чэрвякоў.** Ці ёсць іншыя прапановы адносна колькаснага складу сакратарыята? Няма.

**Леўкоў.** Асабовы склад прапануецца наступны: тт. Готфрыд, Манаеў, Пасюкевіч, Задзернюк, Бурачэўскі, Алёхін—камбрыг. Нач. АБВШ, Прыдачын—лейтэнант №-й дывізіі, Харык, Шэмпель, Царонак, Суханава, Лейзер, Юркоў, Хаін-Юмскі; Ластоўскі; Лук'янчык, Гваздзецкі.

**Чэрвякоў.** Якія ёсць заўвагі адносна складу сакратарыята? (Галасы: «Зацвердзіць»). Хто за тое, каб азначаных таварышоў абраць у склад сакратарыята з'езда, прашу падняць мандаты. Прашу апусціць. Хто супроць, або ўстрымаўся? Няма. Сакратарыят абран аднагалосна.

**Леўкоў.** Прапануецца абраць мандатную камісію ў складзе 14 асоб.

**Чэрвякоў.** Няма іншых прапаноў? Прымаем пастанову аб тым, каб абраць мандатную камісію ў складзе 14 асоб.

**Леўкоў.** Прапануецца наступны асабовы склад мандатнай камісіі: т. т. Кудзелька, Іонісіані, Якубоўскі, Мазалеўская, Кудзельскі, Штэрн (комдзіў), Балычэнка (дывізіённы камісар), Майзіт, Плаўнік, Андрэенка, Буякоў, Васерман, Владзімірскі, Еўсюціна (ордэнаноска ф-кі «Окцябр»).

**Чэрвякоў.** Галасую. Хто за тое, каб мандатную камісію ў гэтым складзе абраць, прашу падняць мандаты. Прашу апусціць. Хто супроць, альбо ўтрымаўся? Няма такіх. Такім чынам, мандатная камісія абрана.

**Леўкоў.** Ёсць прапанова абраць рэдкалегію ў складзе 8 асоб. Персанальна: т. т. Казюк, Ашэровіч, Каліна, Ткачэвіч, Пассэ, Лагодзіч, Кулікаў, Рагінскі.

**Чэрвякоў.** Дазвольце адразу галасаваць. Галасую. Хто за тое, каб рэдкалегію ў гэтым складзе абраць, прашу падняць мандаты. Такім чынам, рэдкалегія зацверджана.

Таварышы, у мяне слова просіць тав. Кісялёва.

Тав. Кісялёва, Вам даецца слова для прапановы.

**Кісялёва.** Я прапаную абраць ганаровым старшынёй Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў нашага вялікага правадыра і бацьку народаў тав. **Сталіна.**

(Гучныя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Аркестр выконвае «Інтэрнацыянал». Воклічы: «Няхай жыве тав. **Сталін!** У р а!»).

**Чэрвякоў.** Такім чынам, таварышы, працяглыя і гучныя апладысменты трэба лічыць як абсалютна аднадушнае прыняццё гэтай прапановы (працяглыя апладысменты).

Слова просіць таксама для прапановы тав. Пушчын.

Слова для прапановы мае тав. Пушчын.

**Пушчын.** Таварышы, ёсць прапанова абраць ганаровы Прэзідыум З'езда (апладысменты) у складзе наступных таварышоў: таварыш Сталін (гучныя працяглыя апладысменты. Аркестр выконвае «Інтэрнацыянал», Молатаў (гучныя апладысменты), Кагановіч (гучныя апладысменты), Калінін (гучныя апладысменты), Варашылаў (гучныя апладысменты), Чубар (гучныя апладысменты), Касіор (гучныя апладысменты), Орджанікідзе (гучныя апладысменты), Мікаян (гучныя апладысменты), Андрэеў (гучныя апладысменты), Ежоў (гучныя апладысменты), Постышэў (гучныя апладысменты), Петроўскі (гучныя апладысменты), Эйхе (гучныя апладысменты), Рудзутак (гучныя апладысменты), Гамарнік (гучныя апладысменты), Гікало (гучныя апладысменты), Галадзед (гучныя апладысменты), Чэрвякоў (гучныя апладысменты), Убарэвіч (гучныя апладысменты), Тэльман (гучныя апладысменты), Дзімітраў (гучныя апладысменты), Сакратар ЦК Компартыі Іспаніі Хозэ Дзіас (гучныя апладысменты), Іспанская рэволюцыянерка—Доларэс Ібаруры (гучныя апладысменты).

**Чэрвякоў.** Таварышы, вашы апладысменты дазвольце лічыць аднагалосным прыняццем гэтых прапаноў (а п л а д ы с м е н т ы).

Працягваем работу.

Слова мае т. Леўкоў.

**Леўкоў.** Прапануецца наступны парадак дня Надзвычайнага XII З'езда Советаў БССР:

1. Аб праекце Сталінскай Канстытуцыі СССР.

2. Выбары дэлегатаў на Надзвычайны VIII Усесаюзны З'езд Советаў.

**Чэрвякоў.** Тав. Леўкоў агаласіў парадак дня Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў. Паўтараць не трэба?

(Галасы—«Не»).

Якія ёсць прапановы?

(Галасы—«Зацвердзіць»).

Галасую. Хто за тое, каб гэты парадак дня зацвердзіць, прашу падняць мандаты. Прашу апусціць. Хто супроць ці ўстрымаўся? Такім чынам, парадак дня зацверджан.

**Леўкоў.** Парадак работы Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў прапануецца наступны:

Пасяджэнні з'ездаў праводзіць з 10 да 3 гадзін дня і з 6 да 9 гадзін вечара.

У спрэчках даецца слова—першы раз 15 мінут, другі раз—5 мінут.

Прапановы, запытанні, заявы і заўвагі падаюцца Прэзідыуму З'езда ў пісьмовай форме. Па асабістых пытаннях слова даецца толькі ў канцы пасяджэння.

**Чэрвякоў.** Якія ёсць заўвагі па пытанню аб прапануемым рэгламенце работ З'езда.

(Галасы—«Зацвердзіць»).

Ёсць прапанова зацвердзіць. Галасую. Хто за тое, каб рэгламент зацвердзіць, прашу падняць мандаты. Прашу апусціць. Хто супроць ці ўстрымаўся? Няма. Рэгламент З'езда зацверджан.

Слова для прапановы даецца т. Кудзелька.

**Кудзелька.** Таварышы. Ёсць прапанова паслаць прывітанне правадыру народаў, вялікаму таварышу Сталіну (Гучныя апладысменты). Усе ўстаюць і вітаюць правадыра народаў таварыша **Сталіна).**

Тав. **Кудзелька** чытае наступнае прывітанне таварышу Сталіну.

Родны бацька наш, мудры правадыр і настаўнік працоўных усяго свету, дарагі і любімы Іосіф Вісарыонавіч!

Мы, дэлегаты Надзвычайнага Ўсебеларускага З'езда Советаў, шлем Вам, найвялікшаму правадыру народаў, арганізатару соцыялістычных перамог гарачае прывітанне ад шасцімільённага народу Совецкай Беларусі.

Несакрушальная цытадэль соцыялізма, узведзеная пад Вашым кіраўніцтвам, стаіць перад усім светам ва ўсёй велічы, захапіўшая ўсю сілу геніяльнага чалавечага розуму, рэволюцыйнай волі большэвіцкага прадбачэння. Гэты розум, гэтая воля і прадбачэнне— Вашы, Іосіф Вісарыёнавіч.

Як ніколі, магутны Совецкі Саюз. Як сонца над светам ззяюць яркія агні нашай соцыялістычнай радзімы, надаючы мужнасць і сілу рэволюцыйным барацьбітам Іспаніі ў іх гераічным змаганні супроць азвярэлага фашызма, натхняючы многамільённы кітайскі народ у барацьбе з японскім імперыялізмам, заклікаючы да вялікай вызваленчай барацьбы ўсе прыгнечаныя народы свету.

Увесь свет бачыць нашыя перамогі і нашыя поспехі. Яны асветлены найвялікшым пражэктарам свету—новай совецкай Канстытуцыяй, якая стала маяком для ўсяго чалавецтва, гэтай ні з чым незраўненай сапраўднай і вялікай партыяй правоў чалавека і грамадзяніна. Аўтар гэтай Канстытуцыі,—Вы, Іосіф Вісарыёнавіч, Ваша імя, таварыш Сталін, самае любімае, самае даратое, самае роднае імя для ўсіх нас, для ўсіх народаў СССР, для рэволюцыйных барацьбітоў усяго свету.

Да Вас, нашага настаўніка, правадыра і друга, звяртаюць свае радасныя погляды ўсе народы нашай краіны. На ўсіх з'ездах советаў—ад Ціхага акіяна да нашых заходніх беларускіх граніц, ад горных вяршын Таджыкістана да блакітных прастораў Арктыкі—славяць Ваша імя, Іосіф Вісарыёнавіч, арганізатара найвялікшых сусветна-гістарычных перамог соцыялізма.

У цяжкія гады грамадзянскай вайны, у дні найвялікшых небяспек для нашага народу, Вы, разам з Леніным, кіравалі стварэннем і абаронай нашай рэспублікі, стварэннем нашай слаўнай КП(б)Б, кіравалі ростам і росквітам Беларусі, прывялі яе ў рады ордэнаносных перадавых рэспублік Саюза. Упершыню ў гісторыі беларускі народ у выніку перамогі Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі заваяваў сваю дзяржаўнасць,—совецкай соцыялістычнай

краіны. Непасрэдны тварэц гэтай дзяржаўнасці—Вы, Іосіф Вісарыёнавіч.

У гераічнай працы, у нашай барацьбе за соцыялізм выраслі дзівосныя кадры стаханаўцаў, ударнікаў, партыйных і непартыйных большэвікоў. БССР ганарыцца 74 ордэнаносцамі сельскай гаспадаркі, 35 ордэнаносцамі прамысловасці і транспарта. Па лепшых людзях рэспублікі—Лучкоўскаму, Скабло, Харнасу, Рушко, Батоўкіну, Ражкову, Блоцкаму, Бейне, Клімовічу, Чэчыку, Зоно Рачок, Асадчаму і многіх другіх—раўняюцца зараз усе працоўныя Совецкай Беларусі. І гэтыя лепшыя людзі нашай рэспублікі—Вашы пітомцы, Іосіф Вісарыёнавіч.

Пад Вашым непасрэдным кіраўніцтвам, таварыш Сталін, Совецкая Беларусь стала квітнеючай краінай. Прамысловая прадукцыя Беларусі вырасла ў параўнанні з 1913 годам у дваццаць разоў. У БССР здабываецца больш 2 мільёнаў тон торфу. Наша варштатабудаўніцтва дае каля 10 проц. усяе прадукцыі Саюза. Удзельная вага прамысловасці ў народнай гаспадарцы Беларусі складае зараз 74 проц.

Усе гэтыя перамогі і дасягненні—перамогі Вашага кіраўніцтва, Іосіф Вісарыёнавіч.

Непазнавальна змянілася старая беларуская вёска з яе спрадвечным жабрацтвам і пакутамі беларускага селяніна. Магутныя камбайны і трактары апрацоўваюць шырокія калгасныя палі. Прасторы Совецкай Беларусі шумяць цяпер сваімі тучнымі нівамі і пасбішчамі, і новыя людзі спяваюць шчаслівыя песні працы, славячы Вас, наш родны і мудры правадыр.

Калгасамі аб'яднана 87 проц. сялянскіх гаспадарак. Лампачка Ільіча ва многіх вёсках замяніла лучыну. За апошнія гады статак рагатай жывёлы павялічыўся на 40 проц., пагалоўе свіней падвоілася. На балотах, якія раней былі крыніцамі пакут і няшчасцяў беларускага народу, створаны дзівосныя гаспадаркі. Асушана каля 700 тысяч гектараў балот.

Узраслі плошчы, засеяныя ільном, палепшана яго якасць. Лён—залаты фонд Беларусі. На палёх Беларусі растуць каучуканосы, канатнік і іншыя новыя тэхнічныя культуры.

За Вашыя клопаты, за шлях, паказаны Вамі, які прывёў нас да велізарных перамог, за Вашы нястомныя думы аб нас, падзяка Вам, наш дарагі бацька і любімы правадыр, Іосіф Вісарыёнавіч.

Расце і мацнее беларуская культура, нацыянальная па форме, соцыялістычная па зместу. Бурны рост школ, стварэнне вышэйшых навучальных і навуковых устаноў, масавы выпуск газет і кніг, росквіт народнай творчасці, поспехі нашай літаратуры і мастацтва—усё гэта непарыўна звязана з Вашым імем, Іосіф Вісарыёнавіч.

Наш Совецкі Саюз, наша соцыялістычная дзяржава гэтае дзівоснае сузор'е нацыянальнасцей, праабраз дзяржаўнага будаўніцтва для народаў усяго свету. БССР непадзельная частка

краіны Советаў. Толькі ў дружбе з усімі народамі, пры братэрскай дапамозе і падтрыманні ўсяго Саюза і ў першую чаргу з боку рускага пролетарыята, наш беларускі народ вышаў на светлыя прасторы соцыялізма, заваяваў сваю дзяржаўнасць, свой матэрыяльны дабрабыт, сваю культуру. Натхніцель гэтай вялікай дружбы народаў—Вы, Іосіф Вісарыёнавіч.

Мы абяцаем Вам, правадыр і настаўнік, працаваць яшчэ лепш, яшчэ больш клапаціцца аб патрэбах працоўных. Мы будзем з усёй цвёрдасцю ажыццяўляць новую Канстытуцыю— гэты сталінскі закон заможнага жыцця працоўных, яшчэ вышэй ўзнімем ролю советаў—праваднікоў генеральнай лініі партыі. Як зяніцу вока будзем ахоўваць мы соцыялістычную ўласнасць—аснову совецкага ладу. Мы абяцаем яшчэ больш узняць рэволюцыйную пільнасць і так арганізаваць усю нашу працу, каб ніхто з ворагаў нават і думаць не адважыўся пасягнуць на нашу краіну і жыццё нашых правадыроў. Ашалелыя сабакі з контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай псярні думалі павярнуць назад кола нашай гісторыі. Забіўшы Сяргея Міронавіча Кірава—палкага трыбуна народу, Вашага лепшага саратніка— яны спрабавалі ўзняць свае крывавыя рукі і супроць Вас, наш друг і настаўнік. Наша любоў да Вас, наша бязмежная адданасць справе соцыялізма—несакрушальны бар'ер, аб які разбіваюцца ўсякія спробы агідных ворагаў.

Наша сіла несакрушальная. Манеўры часцей Беларускай Вайсковай акругі наглядна паказалі, на што здольна наша непераможная Чырвоная армія. Нашы граніцы закаваны ў сталь і бетон, іх ахоўваюць вучні жалезнага Фелікса—нашы слаўныя пагранічнікі. Наша армія моцная і ні аднаго вяршка совецкай зямлі не ўзяць нікому. Гэтая зямля дорага ўсяму працоўнаму чалавецтву і недаступна для ворагаў. Няхай ведаюць ворагі, што ў выпадку нападу на нас яны сустрэнуць грозную сілу, здольную не толькі адбіць атакі ворага, але і разграміць яго.

Совецкая Беларусь—магутны фарпост Совецкага Саюза на заходніх рубяжах. Калі Вы і партыя кінуць кліч, мы рынемся жалезным патокам на ворага за вялікую справу партыі, за шчасце наша і нашых дзяцей, грудзьмі сваімі абаронім сваю зямлю. Няма такіх подвігаў, на якія не быў-бы здольны наш вольны гераічны народ.

Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч! Мы гордыя і шчаслівыя, што з'яўляемся непасрэднымі ўдзельнікамі вялікага соцыялістычнага будаўніцтва і працуем пад Вашым геніяльным кіраўніцтвам. Ваша Канстытуцыя—мудрэйшае з усяго, напісанага ў вяках.

Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч! Прыгожыя і здаровыя дзеці пяюць славу Вам, шчаслівыя маці пяюць славу Вам, увесь наш народ радасна і шчасліва пяе славу Вам.

Прыміце, дарагі Іосіф Вісарыёнавіч, бязмежную любоў і адданасць ад сыноў беларускага народу.

Доўгія гады жывіце, дарагі Іосіф Вісарыёнавіч, на радасць ўсім працоўным і на страх ворагам.

Няхай жыве наша родная, любімая партыя Леніна-Сталіна!

(Гучныя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Усе ўстаюць. Аркестр выконвае «Інтэрнацыянал». Ізноў бура апладысментаў. Галасы з месца: «Няхай жыве наш вялікі, любімы **Сталін!**» «Дзякуем **Сталіну** за шчаслівае, радаснае жыццё». Дэлегаты з'езда пяюць «Інтэрнацыянал»).

**Чэрвякоў.** Такім чынам, таварышы, дазвольце лічыць прывітальную тэлеграму таварышу Сталіну прынятай (бурныя апладысменты).

З'езд прыйшлі вітаць дэлегаты ад прадпрыемстваў горада Менска і перадавых прадпрыемстваў Беларусі (апладысменты).

Слова прадастаўляецца тав. Кісялёвай (апладысменты).

**Кісялёва.** (Стаханаўка Менскай швейнай фабрыкі «Окцябр», ордэнаноска). Таварышы дэлегаты, дазвольце мне ад імя рабочых і работніц, стаханаўцаў і стаханавак, ударнікаў і ўдарніц прадпрыемстваў горада Менска перадаць Надзвычайнаму XII Усебеларускаму з'езду Советаў палкае большэвіцкае, стаханаўскае прывітанне (апладысменты).

Таварышы, сталінская Канстытуцыя выклікала велізарнейшы працоўны ўздым у шырокіх рабочых масах. У гэтай Канстытуцыі, напісанай рукой вялікага генія чалавецтва, таварышом Сталіным, замацованы ўсе заваёвы Вялікай Кастрычніцкай пролетарскай рэволюцыі.

Аб тым, як рэагавалі рабочыя масы на Сталінскую Канстытуцыю і як адгукнуліся рабочыя масы на прамову таварыша Сталіна на першай Усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, гавораць наступныя лічбы: у буйнай прамысловасці на 1 лістапада 1935 г. налічвалася 11% стаханаўцаў у адносінах да ўсёй колькасці рабочых. На сённешні дзень мы маем 33% стаханаўцаў і 20% ударнікаў. У гэтым годзе прамысловасць Беларусі працуе значна лепш, чым у мінулым годзе. Гэтага мы дасягнулі на аснове ўказанняў нашага правадыра і друга таварыша Сталіна (апладысменты).

Шырока разгорнуты стаханаўскі рух дае магчымасць з гонарам справіцца з задачамі, пастаўленымі перад намі партыяй і ўрадам. Наш лозунг: кожны завод, кожны цэх, кожная фабрыка, кожны станок, павінны змагацца за выкананне свайго плана. Мы запэўняем дэлегатаў з'езда і ў іх асобе ўвесь Надзвычайны XII Усебеларускі З'езд Советаў, што будзем па-стаханаўску змагацца за выкананне вытворчых задач, пастаўленых перад намі партыяй і ўрадам. Мы свой вопыт будзем перадаваць усім рабочым нашай Рэспублікі.

На нашу фабрыку ўліліся сотні і тысячы новых людзей з калгасаў, з мястэчак і вёсак, якія з вялікім энтузіязмам выконваюць свае вытворчыя заданні. Кожны з іх штодзённа ў сваім жыцці, у сваім быту, у сваёй рабоце адчувае сталінскую Канстытуцыю.

Расце і квітнее заможнае, шчаслівае жыццё. І таму мы сёння, на Надзвычайным XII Усебеларускім З'ездзе Советаў, які абмяркоўвае праект сталінскай Канстытуцыі, разам з усімі дэлегатамі з'езда, скажам: дзякуй таварышу Сталіну за шчаслівае, радаснае жыццё (гучныя апладысменты).

(Голас з дэлегацыі—«Няхай жыве вялікі Сталін!» З'езд гучна апладыруе).

Пролетарыят Беларусі добра ведае, што ён жыве на граніцы з капіталістычным светам і што пролетарыят Совецкага Саюза даручыў нам пачэсную задачу—ахоўваць нашы граніцы. А таму мы заяўляем сёння Надзвычайнаму XII Усебеларускаму З'езду Советаў, што мы нашу ордэнаносную Беларусь ператворым у непрыступную цытадэль абароны.

Кожны з нас змагаецца за ператварэнне нашых фабрык і заводаў у непрыступную цытадэль абароны. У нашай ордэнаноснай Беларусі 35 лепшых сыноў прамысловасці, лепшых дачок узнагароджаны ордэнамі. З гэтага ліку 8 рабочых і работніц узнагароджаны за абаронную работу з нашай фабрыкі «Октябр» (апладысменты).

Жывучы шчаслівым жыццём, свабодна будуючы гэтае шчаслівае жыццё, мы ні на мінуту не павінны забываць, што за граніцай, ў Іспаніі нашы сёстры і браты змагаюцца і праліваюць кроў за такую-ж свабоду, за такое-ж шчаслівае і радаснае жыццё, якое маем мы. І мы, рабочыя нашых соцыялістычных прадпрыемстваў дапамагаем жанчынам і дзецям рэспубліканскай Іспаніі харчаваннем, будзем дапамагаць і далей да поўнай перамогі над азвярэлым фашызмам, які хоча ў крыві задушыць свабодны народ Іспаніі.

Перад з'ездам мы абавязваемся мацаваць абаронную работу па ўсіх прадпрыемствах нашай Рэспублікі, яшчэ больш узмацніць сувязь з нашай любімай Чырвонай арміяй, з нашымі адважнымі героямі пагранічнікамі, яшчэ шырэй разгарнуць стаханаўскі рух і ўдарніцтва. Мы абавязваемся быць вернымі сынамі нашай соцыялістычнай радзімы і калі трэба будзе ў любую мінуту выступім на абарону нашых граніц супроць азвярэлага фашызма.

Таварышы, рабочыя раду прадпрыемстваў Беларусі прынеслі Надзвычайнаму XII Усебеларускаму З'езду Советаў падарунак, зроблены на прадпрыемствах г. Віцебска (Працяглыя апладысменты). Усе ўстаюць, з усіх канцоў залы нясуцца воклічы:—«Няхай жыве наш правадыр таварыш **Сталін!»**, «Няхай жыве вялікі любімы **Сталін!»**. «Лепшым людзям—стаханаўцам прамысловасці і сельскай гаспадаркі—ура!» Апладысменты. Воклічы—Ура! «Няхай жыве сталінская Канстытуцыя—Ура!», «Няхай жыве Надзвычайны XII З'езд Советаў Беларусі—Ура!». «Няхай жыве Сталінская Канстытуцыя!». «Няхай жыве родны любімы таварыш **Сталін!»**, «Няхай жыве жалезны нарком абароны таварыш **Варашылаў!**—Ура!», «Няхай жывуць ордэнаносцы Беларусі—таварышы **Гікало** і **Галадзед!**—Ура!», «Няхай жыве правадыр

германскага пролетарыята таварыш **Тэльман!**—Ура!», «Дзякуй таварышу **Сталіну** за добрае жыццё!», «Няхай жыве жалезны нарком таварыш **Кагановіч!**—Ура!» Бурныя, працяглыя апладысменты. Воклічы—«У р а!».

(Дэлегацыя прыпадносіць Прэзідыуму падарунак XII З'езду).

**Кісялёва.** Таварышы, у гэты падарунак рабочыя масы Беларусі ўлажылі ўсю сваю любоў і адданасць да нашай партыі і ўрада.

Няхай жыве ордэнаносная Беларусь!

Няхай жывуць лепшыя людзі нашай рэспублікі—дэлегаты нашага Надзвычайнага XII З'езда Советаў Беларусі!

Няхай жыве наш вялікі родны бацька, які прывёў нас да шчаслівага, радаснага жыцця! (Усе стоячы доўга апладыруюць).

Няхай жыве вялікі **Сталін!** Ура! (Бурныя апладысменты).

(Пад апладысменты ўсіх прысутных у зале дэлегацыя выходзіць).

**Чэрвякоў.** Таварышы, для прывітання з'езда прыбыла дэлегацыя нашых слаўных пагранічнікаў.

(Зала стоячы вітае ўваходзячую дэлегацыю пагранічнікаў. Аркестр выконвае марш. (Бурныя апладысменты. Крыкі «Ура!»).

Слова для прывітання мае тав. Сідарэнка.

**Сідарэнка.** Дэлегатам Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў ад байцоў, камандзіраў, палітработнікаў і сем'яў пагранічнікаў, выхаваных на баявых чэкісцкіх традыцыях Феліксa Эдмундавіча Дзержынскага я перадаю баявое чэкісцкае пагранічнае прывітанне (Бурныя апладысменты. Воклічы «У р а!»).

Наша гарачае баявое пагранічнае прывітанне КП(б)Б і яе кіраўніку ордэнаносцу тав. **Гікало.** Наша гарачае прывітанне Ураду ордэнаноснай Беларусі і яе кіраўнікам—тав. **Галадзеду,** старшыні ЦВК БССР тав. **Чэрвякову** (Бурныя апладысменты).

У гэтыя радасныя дні ўсенароднага свята абмеркавання і зацверджання Сталінскай Канстытуцыі мы, пагранічнікі, разам з народам нашай краіны, разам з народам ордэнаноснай Беларусі, шлем геніяльнаму творцу сталінскай Канстытуцыі, правадыру народаў СССР, вялікаму нашаму другу, настаўніку і бацьку тав. **Сталіну** (Бурныя апладысменты. Воклічы: «Вялікаму **Сталіну** Ура!») падзяку за нашае шчаслівае, радаснае, культурнае жыццё, падзяку за нашу замячацельную радзіму (Бурныя апладысменты, воклічы «ура!»).

Таварышы, пагранічнікі нашай любімай радзімы ланцугом пастоў, застаў і дазораў стаяць на мяжы 2-х светаў. Кожны дзень, кожную гадзіну, днём і ноччу, пад праліўным дажджом і ў завіруху на неабсяжных межах нашай вялікай краіны адбываецца баявая пагранічная вахта, гэта вахта пільна ахоўвае межы соцыялістычнай радзімы, яна вострым зрокам сверліць цемру ночы.

Пагранічнікі—гэта нашы мужныя, загартаваныя, пламенныя патрыёты нашай соцыялістычнай радзімы. Кожны пагранічнік ведае, што ён выконвае задачу дзяржаўнай важнасці, кожны пагранічнік цвёрда ведае, што ён выконвае галоўнейшую задачу грамадзяніна Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, ён ахоўвае, аберагае нашу соцыялістычную радзіму ад хітрага, каварнага і дзерзкага ворага—шпіёнаў, дыверсантаў і тэрарыстаў.

Сталінская Канстытуцыя, вялікая любоў да сваёй радзімы, бязмежная адданасць справе Леніна—Сталіна, любоў і дапамога, якую аказваюць нам працоўныя, ордэнаносцы Беларусі,—вось, таварышы, крыніцы мужнасці, адвагі, стойкасці, находчывасці дазорных вялікай краіны. Гэтыя крыніцы невычэрпальны, яны павялічваюць нашу чэкісцкую пільнасць, яны робяць вочы пагранічнікаў яшчэ больш зоркімі, яны робяць наш слух яшчэ больш чуткім, штыхі і кулі меткімі, разяшчымі ворага.

Таварышы, днём і ноччу ярка свеціць народам нашай вялікай краіны і працоўным усяго свету яркае сонца. Імя гэтаму сонцу—Сталін (бурныя апладысменты, усе ўстаюць.)

Пад праменнямі гэтага сонца вырасла магутная краіна соцыялізма, растуць новыя гарады, растуць заводы—волаты, пладароднымі сталі нашы калгасныя палі, тучнымі сталі нашы статкі.

Раней прыгнечаныя, бяспраўныя народы Беларусі зараз сталі шчаслівымі, культурнымі, яны жывуць у вялікай сям'і народаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, яны зараз заваявалі самую высокую ўзнагароду—ордэн Леніна (апладысменты).

За мінулы стаханаўскі 1936 год пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта Комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі на чале з сакратаром ЦК КП(б)Б Нікалаем Фёдаравічам Гікало (апладысменты), пад кіраўніцтвам Урада ордэнаноснай Беларускай Рэспублікі на чале з ордэнаносцам старшынёй СНК БССР Нікалаем Матвеевічам Галадзедам (апладысменты) і старшынёй ЦВК Беларускай Рэспублікі Александрам Грыгоравічам Чэрвяковым (апладысменты) пры штодзённай увазе і дапамозе правадыра народаў вялікага Сталіна (апладысменты) Совецкая Беларусь дабілася велізарных перамог. Вырасла армія стаханаўцаў. Гэта армія стала шматлікай, магутнай. Стаханаўцы на фабрыках і заводах ордэнаноснай Беларусі паказваюць нам кожны дзень цуды, нябачаныя ўзоры вытворчасці соцыялістычнай працы, заможным стала жыццё нашых калгаснікаў, вырасла магутнасць БССР—фарпоста соцыялізма на захадзе.

Таварышы, гэты год быў таксама годам безупыннага, няўхільнага росту баяздольнасці часцей пагранічнай аховы Беларусі. Непамерна вырасшая актыўнасць байцоў, пры абгаварэнні сталінскай Канстытуцыі—вылілася ў напружаную барацьбу за выдатную ахову граніц нашай соцыялістычнай радзімы, за высокія выдатныя паказчыкі баявой і палітычнай падрыхтоўкі, за права несці ганаровую сталінскую вахту ў дзень адчынення Надзвычайнага VIII Усесаюзнага З'езда Советаў.

Ініцыятары гэтай барацьбы за права нясення сталінскай ганаровай вахты, пагранічнікі перадавой у нашай акрузе заставы, заставы імя тав. Ежова пісалі ў сваім лісце працоўным ордэнаноснай Беларусі і да ўсіх пагранічнікаў: «Няхай у гэты дзень гудзяць сірэны фабрык і заводаў, магутны рокат станкоў, на якіх працуюць лепшыя людзі Савецкай Беларусі. Сальюцца з магутнай сімфоніяй любві, адданасці і падзякі мільёнаў будаўнікоў соцыялізма роднаму, любімаму Сталіну, які стварыў новае жыццё, як бацька клапаціцца аб кожным чалавеку, які вядзе нас ад перамогі да перамогі к комунізму» (а п л а д ы с м е н т ы).

Германскія і італьянскія фашысты, японскія імперыялісты рыхтуюць напад на Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік— бацькаўшчыну працоўных усяго свету. Ворагі пралічацца. У любы час неперамажная рабоча-сялянская Чырвоная армія на чале з яе перадавым атрадам—пагранічнай аховай, разам з усёй нашай краінай, выступіць на абарону нашай радзімы. Усёй сакрушальнай сілай агню, метала і машын мы будзем біць фашызм да поўнага разгрома (а п л а д ы с м е н т ы) і будзем біць на той тэрыторыі, адкуль яны пасмеюць напасць на нашу свяшчэнную совецкую зямлю (а п л а д ы с м е н т ы).

З вялікай і неаслабнай увагай мы, пагранічнікі, сочым за гераічнай барацьбой іспанскага народу з агалцелымі фашыстамі і інтэрвентамі. Гэтыя асатанелыя ворагі ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва імкнуцца агнём і мячом, дзікім азвярэлым тэрарам, крывёю жанчын і дзяцей, крывёю працоўнага народу ўстанавіць сваё панаванне. Мы цвёрда верым у тое, што народы Іспаніі ў гэтай крывавай барацьбе перамогуць, перамогуць таму, што народы Іспаніі цвёрда ведаюць, што фашызм нясе ім рабства, жабрацтва, голад і смерць.

Таварышы, Вы выбіраэце дэлегатаў на Надзвычайны VIII Усесаюзны З'езд Советаў. Мы просім дэлегатаў перадаць З'езду і Вялікаму Сталіну, што ў дзень адчынення Надзвычайнага Ўсесаюзнага З'езда Советаў мы, пагранічнікі, выйдзем на ганаровую вахту краіны соцыялізма з велізарнейшай чэкісцкай пільнасцю, вартай выхаванцаў пролетарскага якабінца Фелікса Эдмундавіча Дзержынскага. Пад кіраўніцтвам саратніка Сталіна, Народнага Камісара ўнутраных спраў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік тав. Ежова (а п л а д ы с м е н т ы), з імем тав. Сталіна мы будзем і далей смярцельна разіць ворага, як вучыць нас вялікі Сталін (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве і мацнее магутны фарпост соцыялізма на Захадзе—ордэнаносная Совецкая Беларусь! (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве партыя большэвікоў Беларусі на чале з яе баявым кіраўніком тав. Гікало! (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве бліжэйшы саратнік вялікага Сталіна—Народны Камісар унутраных спраў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік тав. Ежоў! (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве сапраўды народная, неперамажная, магутная Рабоча-сялянская Чырвоная армія на чале з саратнікам вялікага

Сталіна, першым маршалам Совецкага Саюза Кліменціем Ефрэмавічам Варашылавым! (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве свабодны народ Іспаніі, які тераічна змагаецца з чорнымі сіламі фашысцкай рэакцыі! (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве тварэц лепшай у свеце Канстытуцыі, правадыр народаў, чые імя натхняе нас на новыя тераічныя подвігі, вялікі Сталін! (г у ч н ы я а п л а д ы с м е н т ы, аркестр выконвае «Інтэрнацыянал»).

Нашаму другу, бацьку і настаўніку, геніяльнаму і вялікаму тав. **Сталіну** громкае пагранічнае «Ура». («Ура!» Аркестр выконвае «Інтэрнацыянал»).

Дэлегатам Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў наша громкае «Ура» («Ура!», А п л а д ы с м е н т ы).

(Воклічы з месц: «Няхай жывуць слаўныя совецкія чэкісты—пагранічнікі».

Перадавой варце совецкіх граніц—пагранічнікам—«Ура».

За Сталінскую варту—ахову граніц Совецкага Саюза—«Ура».

**Чэрвякоў.** Для прапановы мае слова Прэзідэнт Акадэміі навук Іван Захаравіч Сурта.

**Сурта.** Я прапаную з'езду прыняць наступнае прывітанне тераічнаму народу Іспаніі (а п л а д ы с м е н т ы).

*Іспанія. Валенсія.*

**СТАРШЫНІ СОВЕТА МІНІСТРАЎ ЛАРГО КАБАЛЬЕРА САКРАТАРУ ЦК КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ ІСПАНІІ ХОЗЭ ДЫЯСУ ПРАЦОЎНЫМ ІСПАНІІ.**

У дні вялікай радасці народаў магутнага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, напярэдадні Надзвычайнага VIII З'езда Советаў, які зацвердзіць самую дэмакратычную ў свеце Канстытуцыю, Вам, бясстрашным барацьбітам супроць фашызма, верным сынам і дачкам іспанскага народу, Надзвычайны XII З'езд Советаў Беларусі шле сваё братэрскае гарачае прывітанне.

Таварыш Сталін, родны і любімы бацька наш, мудры правадыр і настаўнік працоўных усяго свету, выказваючы думкі і пачуцці совецкага народу да ўсяго перадавога чалавецтва, сказаў:

«Вызваленне Іспаніі ад гнёту фашысцкіх рэакцыянераў не ёсць прыватная справа іспанцаў, а—агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва».

Тераічныя браты і сёстры! На Вашай зямлі разыгрываюцца важнейшыя падзеі сучаснай гісторыі. У асобе фашысцкіх генералаў наступае сусветная рэакцыя, якая прабуе рукой, абагронай крывёю перадавых людзей сучаснага свету, схапіць за горла рэволюцыйных рабочых. Гісторыя паставіла вас на перадавыя пазіцыі барацьбы з рэакцыяй. Адбіваючы атакі фашысцкіх мяцежнікаў, знішчаючы азвярэлыя фашысцкія банды, якія нена-

відзяць чалавецтва, вы робіце рэволюцыйную справу, справу усіх прыгнечаных, усіх перадавых людзей нашага часу, якія змагаюцца за дэмакратыю, свабоду, культуру і прагрэс.

Дарагія браты і сёстры! Народы Совецкай Беларусі як і ўсе прыяцелі свабоды і прагрэсу, напружана сочаць за кожным крокам вашай барацьбы, якая разгарнулася вакол Мадрыда. Мы радуемся кожнай вашай перамозе, шчыра лічым яе сваёй перамогай.

Мы ведаем па свайму вопыту, што перамога даецца нялёгка. Мы памятаем трывожныя дні, калі белагвардзейскія палкі генерала Юдзеніча падступілі да самога Петраграда. Моцна сціскаючы вінтоўку, народы нашай краіны пад кіраўніцтвам героічнай комуністычнай партыі Леніна—Сталіна, у гнеўным парыве, несакрушальнай лавінай кінуліся на ворага і раздавілі яго. Мы цвёрда упэўнены, што таксама як подступы да чырвонага Піцера сталі магілай белагвардзейскіх банд Юдзеніча, так і подступы да рэволюцыйнага Мадрыда стануць магілай фашысцкіх мяцежнікаў.

Мы ведаем, што мяцежныя генералы былі-б даўно разгромлены геаічным народам рэволюцыйнай Іспаніі, які змагаецца за сваю свабоду, за права працаваць, калі-б рэакцыйныя сілы Германіі, Італіі і Партугаліі, зацікаўленыя ў распальванні вайны, сілы, якія рыхтуюць народам усяго свету новыя нечуваныя няшчасці і страшныя пакуты, не аказвалі-б мяцежнікам дапамогі сродкамі, зброяй і людзьмі.

Мы ганарымся Вамі, верныя сыны іспанскага народу, вашай мужнасцю, смеласцю, адвагай і стойкасцю ў барацьбе супроць фашысцкіх катаў і вешацеляў рабочых і сялян, здраднікаў радзімы, якія распрадаюць народную зямлю Іспаніі, аддаюць насельніцтва, што жыве на гэтай зямлі, у наёмнае рабства германскім і італьянскім капіталістам.

Мы упэўнены, што працоўныя іспанскага Марокко, ашуканыя генералам Франко—здраднікам радзімы, якія яшчэ сёння ідуць з мяцежнікамі, заўтра стануць на бок рэспублікі, якая абараняе правы усіх прыгнечаных Іспаніі.

Будзьце упэўнены, таварышы, што беларускі народ падзяляе вашы пачуцці. Няхай наша братэрская салідарнасць і скромная дапамога, аказаная Вашым сем'ям, будзе натхняць Вас у Вашай цяжкай барацьбе.

Мужайцеся, браты і сёстры. Вы пераможаце, вораг будзе раздаўлены.

Няхай жыве правадыр народаў усяго свету таварыш **Сталін!**

Няхай жыве адзіны фронт барацьбы працоўных усяго свету супроць фашызма і вайны!

Няхай жыве геаічны народ Іспаніі!

Няхай жыве рэволюцыйны Мадрыд!

(Гучныя доўга незмаўкаючыя апладысменты).

**Чэрвякоў.** Хто за тое, каб прывітанне слаўнаму геройчнаму народу з пажаданнем канчатковага разгрому фашызма прыняць, прашу падняць мандаты. (*Гучныя апладысменты*).

Хто супроць, ці устрымаўся? Няма.

Прывітанне Іспанскаму народу ад беларускага народу прымаецца аднагалосна.

Нам трэба ўмовіцца адносна далейшага распарадку нашай работы. У звязку з тым, што многія дэлегацыі прыехалі толькі сёння раніцай, усю ноч былі ў дарозе, а некаторыя прыехалі ўвечары, а таксама прымаючы пад увагу тое, што сёння арганізуецца паказ новага музычнага твору, музычнага афармлення ліста працоўных Беларусі вялікаму Сталіну, ёсць прапанова зараз работы з'езда спыніць, а заўтра работу з'езда пачаць ў 10 гадзін раніцы.

Прапанова прымаецца.

**Пасяджэнне абвяшчаецца зачыненым.**

*Рэдакцыйная камісія З'езда*
*Адказны рэдактар Н. В. КАЗЮК.*

Зак № 1233. 1000 экз. Галоўлітбел № 5457.

Друкарня імя Сталіна. Менск.